


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!* Францішак БАГУШЭВІЧ

# НАША СЛОВА

№ 41(51) • 27 лістапада — 3 снежня 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## Поступ тыдня

ПАДПІСАННЕ САЮЗНАГА ДАГАВОРА, ЯК ЧАКАЛАСЯ, 25 ЛІСТАПАДА НЕ АДБЫЛОСЯ. ЯГО ПРАЕКТ НАМЕЧАНА АПУБЛІКАВАЦЬ І АБМЕРКАВАЦЬ У ВЯРХОЎНЫХ САВЕТАХ РЭСПУБЛІК І САЮЗА.

*РАБОТУ СЁМАЙ СЕСІІ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА ВЫРАШАНА ПРАДОЎЖЫЦЬ 10 СНЕЖНЯ І ЗАКОНЧЫЦЬ ПРАЗ ДВА ДНІ.*

**ЯШЧЭ З АДНОЙ** заявай за апошнія дні выступіла апазіцыя БНФ у беларускім парламенце. Крыху раней аналагічны дакумент падпісалі 73 дэпутаты гэтага ж парламента — яны стварылі фракцыю «За дэмакратыю і сацыяльны прагрэс». У сваю чаргу аб намечанай праграме дзеяння заявіў Савет Міністраў рэспублікі. Як бачна, супрацьстаянне ў вышэйшых органах улады Беларусі абвастраецца. Невядома толькі, ці дапаможа гэта змякчэнню крызісу ў эканоміцы, ад якога больш усяго пакутуюць людзі.

У МЕНСК ПРЫБЫЛА ДЭЛЕГАЦЫЯ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА.

*ПРЫНЯТЫ ЗАКОН «АБ АДУКАЦЫІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ». СПЕЦЫЯЛЬНАЙ ПАСТАНОВАЙ ГЭТЫ ЗАКОН УВОДЗІЦЦА Ў ДЗЕЯННЕ З МОМАНТУ ЯГО ПРЫНЯЦЦЯ.*

ПАДПІСАНА ЭКАНАМІЧНАЕ ПАГАДНЕННЕ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І КАЗАХСТАНАМ.

*САЎМІН РЭСПУБЛІКІ ПАСТАНАВІЎ: ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ПРОДАЖ УСІХ ТАВАРАЎ ТОЛЬКІ ЖЫХАРАМ БЕЛАРУСІ. Незразумела аднак, чаму беларускія пакупнікі, маючы на руках усе дакументы, не могуць набыць неабходныя тавары, як і тыя, хто сюды выпадкова завітаў.*

**УРАЧЫ ХУТКАЙ** дапамогі Менска папярэдзілі аб магчымасці забастоўкі 1 снежня.

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма БАГДАНОВІЧА*



Свята Максіма ў старажытнай Гародні. Стар. 2. ▶

## Рэспубліка коціцца ў бездань

У беларускай прэсе надрукаваны зварот Сойма БНФ да народа Беларусі. У ім аналізуецца складаная палітычная абстаноўка ў рэспубліцы, прапануюцца шляхі выхаду з крызісу. У прыватнасці, адзначаецца, што колішняя залежнасць Беларусі ад Савецкай імперыі «на вачах ператвараецца ў залежнасць ад Расіі». Вялікія яе выгоды і эканамічны патэнцыял не выкарыстоўваюцца, рэспубліка «копіцца ў бездань эканамічнага краху». Адказнасць за гэта цалкам ускладаецца на кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў Беларусі, які называецца «ЦК КПБ у новым абліччы».

Паколькі ўрад сам не падасць у адстаўку, рэспубліканскі парламент не заявіць аб самароспуску, БНФ прапануе законны шлях замены скампраметаванай улады — рэферэндум, закон аб якім уступае ў сілу ў наступным годзе. Лічыцца мэтазгодным паставіць пытанні аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савета, адстаўцы Саўміна, нацыяналізацыі маёмасці КПСС — КПБ. Якія канкрэтныя вынікі могуць даць гэтыя меры — роспуск, адстаўка, нацыяналізацыя — у звароце не тлумачыцца.

## Вітаем юных чытачоў!

*У адным з папярэдніх нумароў «Наша слова» паведамляла пра ініцыятыву Таварыства беларускай мовы Савецкага раёна г. Менска, якое стала фундатарам віктарыны «Піянера Беларусі» — «Зоркі Белай Русі». Ужо падведзены яе вынікі. Газета атрымала 430 лістоў і бандэроляў з адказамі, малюнкамі і вершамі.*

*Пераможцаў узнагародзілі гадавой падпіскай на перыядычныя выданні: «Піянер Беларусі», «Дзеці і мы», «Бярозка».*

*Таня Слінко з Баранавіч і Алёна Аколава з Дуброўна, Марыя Драўніцкая з Мядзельскага раёна і Максім Шахрай з Менска, іншыя вучні сталі сябрамі газеты Рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны «Наша слова». Мы спадзяёмся, што школьнікі будуць не толькі актыўнымі чытачамі «Нашага слова», але і актыўнымі змагарамі за сцвярджэнне роднай мовы, за пашырэнне яе ўжытку.*

*«Піянер Беларусі» гатовы запрасіць дзетвару да ўдзелу ў новых конкурсах, а Таварыства беларускай мовы Савецкага раёна — падтрымаць ініцыятыву газеты грашыма.*

А.К.

*Рэха*

## Феномен Пілсудскага

У прэсе прамільгнула паведамленне карэспандэнта БЕЛТА, якое сапраўды можна лічыць сенсацыйным. Аказваецца, вядомы польскі дзяржаўны дзеяч Юзаф Пілсудскі згодна з нядаўна знойдзенымі архіўнымі дакументамі з'яўляўся па нацыянальнаму паходжанню беларусам. Прычым у адрозненне ад даволі значнай часткі беларускай шляхты канца XIX — пачатку XX стагоддзяў ён гэтага не хаваў, ва ўсякім разе ў маладыя гады. Больш таго, нават стаўшы на чале польскага ўрада, ён нярэдка выступаў перад аўдыторыяй на добрай беларускай мове, што, акрамя іншых захадаў, таксама дазволіла яму схіліць на свой бок большую частку беларускай інтэлігенцыі.

Такім быў пачатак. Далейшыя падзеі, аднак, перакрэслілі ўсе беларускія спадзяванні на добрае. Гаротная Беларусь, колькі яна дала суседзям сваіх таленавітых сыноў, якія потым аддзячылі Айчыну тым, што садзейнічалі яе асіміляцыі чужынцамі! Мала суцешнага, што гэта агульная якасць амаль усіх тых, хто па нейкіх прычынах самахоць пераходзіў у іншы народ.

Л. М.

## Да светлай даты

Хутка споўніцца 100 гадоў з дня нараджэння нашага славутага песняра Максіма Багдановіча. Беларусь ужо святкуе гэты юбілей. Не стаяць убаку і беларусы замежжа. У прыватнасці, вБеларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Нью-Йорку пад кіраўніцтвам Вітаўта Кіпеля выдаў прыгожую паштоўку з выявай Максіма. Уверсе друкуюцца радкі з «Пагоні»:

Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!

Ніжэй гэтая ж страфа паўтараецца ў перакладзе на англійскую мову. На другім баку паштоўкі на беларускай і англійскай мовах напісана: «Да 100-годдзя ад нараджэння беларускага паэта Максіма Багдановіча (1891—1917)». Адначасова выйшаў тут і вялікі каляровы плакат з падобным адлюстраваннем.

С. ЧЫГРЫН.

## «ПАХОДНЮ» ЗАПАЛІЛІ ВАЙСКОЎЦЫ
















Гутарку нашага карэспандэнта з падпалкоўнікам Святаславам Асіноўскім чытайце на 2 стар.

# Выбранецкая інфармацыйная служба паведамляе

2 лістапада ў прадстаўніцтве Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у Маскве прайшло святкаванне Дзядоў. Арганізацыю і правядзенне ўзялі на сябе маскоўская суполка БНФ «Адраджэнне» і Таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны (ТБК). У святкаванні бралі ўдзел каля 50 беларусаў, якія жывуць у Маскве. Прысутныя ўшанавалі памяць Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы і іншых вялікіх сыноў зямлі беларускай. Пасля адбыўся малебен за ўсіх загінуўшых беларусаў. Яго вёў Генадзь Прыбытка — старшыня уніяцкай «дзесяткі».

Як паведаміў намеснік старшыні ТБК спадар Генадзь Лех, арганізатары звярталіся ў дзесяць праваслаўных храмаў у Маскве, каб правесці набажэнства ў гонар вядомых беларусаў. Ды толькі ў адной царкве далі на гэта згоду, але паставілі свае ўмовы: набажэнства праводзіць а 7 гадзіне раніцы, а замест імёнаў Кастусь Каліноўскі і Янка Купала павінна гучаць «Канстанцін» і «Іван». У астатніх цэрквах увогуле адмовіліся мець справу з сябрамі ТБК. «Такое стаўленне да беларусаў у Маскве з'явілася для нас нечаканым»,— адзначыў спадар Лех.

* * *

*10 лістапада ў сярэдняй школе № 12 горада Караляўца (Кёнігсберг) намеснік старшыні БНФ спадар Юрый Хадыка прачытаў лекцыю на тэму «Уніяцкае мастацтва». З цікавасцю праслухалі лекцыю не толькі дарослыя, але і дзеці. Пасля спадар Хадыка расказаў пра падзеі на Бацькаўшчыне і адказаў на шматлікія пытанні.*

* * *

Хаўрус беларускамоўных студэнтаў пры БДУ запрашае ўсіх жадаючых патраціць свой вольны час на клуб самадзейнай песні. Збор — кожную сераду у 210 пакоі галоўнага корпуса універсітэта а 19-й гадзіне.

* * *

*31 кастрычніка на філалагічным факультэце БДУ адбылася прэзентацыя газеты «Наша Ніва». Вечарыну адкрыў і вёў Адам Глобус. Бралі ўдзел супрацоўнікі газеты — Алег Мінкін, Ігар Бабкоў і аўтар чацвёртага нумара «НН» Анатоль Сыс. Яны прачыталі свае творы і расказалі пра дзейнасць беларускіх асяродкаў у Віленскім краі. Выступы перамяжоўваліся песнямі ў выкананні Алеся і Касі Камоцкіх. Пасля прэзентацыі адбыўся канцэрт бардаўскай песні, у якім бралі ўдзел Андрэй Мельнікаў, Вольга Акуліч, Валерый Пазнякевіч і іншыя. Прэзентацыя была наладжана Хаўрусам беларускіх студэнтаў БДУ.*

* * *

3 лістапада сябры маладзёжнай арганізацыі «Выбранецкія шыхты» адзначылі Дзяды ў вёсцы Плябань Маладзечанскага раёна, дзе ў 1864 годзе былі забітыя ўдзельнікі паўстання К. Каліноўскага і патаемна адпетыя ў мясцовым касцёле. На месцы іх пахавання на вясковых могілках «Талакою» быў усталяваны камень. Выбранцы ўсклалі да яго белыя кветкі і запалілі свечкі.

Крыху раней выбранцы правялі сустрэчу з моладдзю Брэсцкага педагагічнага інстытута. Госці з Менска расказалі пра сваю дзейнасць, паказалі відэасюжэты пра слуцкую вандроўку і вячоркі, якія ўжо рэгулярна ладзяцца ў Менску, адказалі на пытанні. Вынікам сустрэчы з'явілася жаданне прысутных стварыць філію «Выбранецкіх шыхтоў» у Брэсце.

* * *

*У Лідзе маладзёжная суполка «Рунь» узнавіла на будынку былой школы піяраў (цяпер гэта абсерваторыя) мемарыяльную дошку ў гонар Тэадора Нарбута — удзельніка паўстання К. Каліноўскага. Старая дошка была знішчана падчас рэстаўрацыі будынка.*

* * *

*Маладзёжная арганізацыя «Выбранецкія шыхты» прапануе запісы беларускай музыкі: рок, поп, барды, фальклор, класіка. Кошт паслугі залежыць ад якасці запісу, тэрміну і складанасці заказу (напрыклад, зборка фанаграм). Выконваюцца заказы як на касетах кліентаў, так і арганізацыі (кошт касеты ў залежнасці ад якасці вырабу ад 21 да 45 рублёў).*

*Атрымаць даведку і замовіць запісы можна па тэлефоне: 77-18-17 (21—23, Сяржук); пісьмова: 220064, Менск, вул. Казінца, д. 114, к. 1, кв. 3, Сяржуку Альшэўскаму.*

*Падрыхтавалі Вольга МІХАЙЛІК і Андрусь ВАШКЕВІЧ.*

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

# СВЯТА МАКСІМА Ў СТАРАЖЫТНАЙ ГАРОДНІ

КАЛЯНДАРНЫ МАРШРУТ святкаванняў паэтавых юбілеяў традыцыйны — гэта Ялта, Ніжні Ноўгарад, Яраслаўль, Кіеў, Львоў, Вільня, а на Беларусі — Менск, Ракуцёўшчына, Гародня. Сёлета да яго далучана яшчэ адна мясцінка — Вяззе, што пад Асіповічамі, дзе калісь малы хлопчык Максімка гасцяваў з маці і братамі ў роднай цёткі Сцепаніды Апанасаўны Секержыцкай. Спланаваныя юбілейным аргкамітэтам шматдзённыя мерапрыемствы, што праходзілі пры ўдзеле міністраў, пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва і культуры, падрабязна асвятляліся ў рэспубліканскім друку. Пра адно самадзейнае свята, арганізаванае саматужнікамі са Згуртавання беларусаў свету, расказаў нядаўна Яўген Лецка ў нататках «Слаўны пераход альбо вандроўка па рускіх рэках да беларуса Максіма» (ЛіМ, № 46).



Выступленне фальклорнага тэатра «Госціца» на сцэне тэатра лялек.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

І вось яшчэ адна святочная падзея, прымеркаваная да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча,— Дні Беларускага фонду культуры (11—13 лістапада) у Гародні,— горадзе, дзе пражыў будучы паэт з чэрвеня 1892 па канец 1896 года і дзе яго напаткала непапраўнае гора — смерць любімай мамы Марыі Апанасаўны.

Дні фонду вялі намеснікі старшыні БНФ Валерый Скварцоў і Алёна Багданава. Пры іх непасрэдным удзеле адбываліся прэзентацыя творчых калектываў, адкрываліся мастацкія выставы, адбываліся сустрэчы з моладдзю, праходзілі экскурсіі па горадзе, у гісторыка-археалагічны музей, у музей М. Багдановіча, на могілкі, дзе адбылося ўскладанне кветак на магілу маці паэта. Такім чынам, дзякуючы гэтым добрым людзям і іх памочнікам — актывістам Гродзенскага фонду культуры, свята ўдалося, і падзея гэта закранула не адно чалавечае сэрца. Яна паслужыла нашаму адраджэнню, абуджэнню нацыянальнай свядомасці.

Першым днём адбыліся ў тэатры лялек выступленні фальклорнага тэатра Белдзяржтэлерадыё «Госціца» (мастацкі кіраўнік хормайстар Ларыса Сімаковіч, рэжысёр Людміла Новік) і маленькага тэатра Таварыства беларускай мовы (мастацкі кіраўнік і чытальнік Мікола Казачонак, выканаўца песень па словы Багдановіча Ігар Сігаў), — у гэты ж час у фае тэатра была разгорнута выстава-кірмаш твораў народных мастакоў: кераміка, вырабы з саломкі, тканыя стужкі і паясы, іншыя рэчы. У другой палове дня адбылося адкрыццё выставы твораў жывапісу, прысвечаных Максіму. Іх аўтары — М. Басалыга, А. Кашкурэвіч, В. Маркавец, У. Уродніч, Л. Шчамялёў, М. Цудзік, А. Тарановіч, В. Свентахоўская, А. Панцюк. Наведвальнікі агледзелі экспанаты, пагаварылі з мастакамі. У дар музею Багдановіча мастачка Лапіцкая перадала сваю працу — партрэт паэта.

12 лістапада Дні фонду разгарнуліся па садках, школах і прадпрыемствах горада і Гродзеншчыны. Адбыліся паказ беларускіх мультфільмаў (рэжысёр-мультыплікатар Віктар Доўнар), спектаклі батлеечнага тэатра, створанага пры музеі Максіма Багдановіча ў Менску (рэжысёр і мастацкі кіраўнік С. Вітушка), выступленні фальклорнай групы «Літвіны» (мастацкі кіраўнік Уладзімір Бербераў, удзельнікі — супрацоўнікі Заслаўскага запаведніка і студэнты тэатральна-мастацкага інстытута і БДУ).

Хвалюючай падзеяй сталі выступленні фальклорнага тэатра «Госціца». І таму, што яго артысты — дзеці, і таму, што тэатр гэты ўнікальны, аналагаў яму няма. Коратка спынюся на спецыфіцы тэатра, абапіраючыся, зразумела, на сваю гутарку з мастацкім кіраўніком Ларысай Сімаковіч.

Перш за ўсё, «Госціца» — не ансамбль народнай песні і танца, а фальклорны тэатр. Дзеянне на сцэне ўяўляецца як разгортванне старажытнага абраду з характэрнымі для яго элементамі песеннага, харэаграфічнага і драматычнага мастацтва. Навучанне ў «Госціцы» цяжкае, патрабуе ад выканаўцаў майстэрства, уяўлення і натхнення. Адпрацоўваюцца рытуальныя абрадавыя танцы і харэаграфічная тэхніка ў цэлым; спасцігаюцца сэнс, мелодыя і рытміка народнай песні аж да адчування таго, што ў ёй закладзена.

У Гародні «Госціца» паказала веснавыя, жніўныя і калядныя абрады з іх танцамі, песнямі і музыкай. Узнікла «Госціца» гадоў шэсць назад пад эгідай Белдзяржтэлерадыё (каму-каму, як не гэтай магутнай установе адраджаць народнае мастацтва!). Узначалілі тэатр хормайстры Ларыса Сімаковіч, Валянціна Варзіева і рэжысёр Людміла Новік. Быў аб'яўлены дзіцячы конкурс. Дзяцей падбіралі па тэмпераменту, эмацыянальнай рэакцыі, знешніх і музычных даных (голас і слых), пераважна беларускамоўных.

Дзіцячы калектыў доўга не выходзіў «у людзі». Стаўка на хуткі сцэнічны поспех не рабілася, не робіцца і цяпер. Аказалася, што Ларыса Сімаковіч — тыповая адраджэнка, сваю задачу яна акрэсліла лаканічна: вяртанне да народных вытокаў; выхаванне новай, нацыянальна свядомай інтэлігенцыі; прапаганда беларускага мастацтва.

Часам «Госціца» выступае па тэлебачанні, часам дае канцэрты ў розных установах і тэатральных залах. Гурт прымаў удзел у Міжнародным фестывалі «Дзеці Арктыкі» (фінансаваў паездку аргкамітэт фестывалю). Сюды, у Гародню, «Госціца» прыехала за кошт БФК. У дзетак зношаныя строі, стаптаныя лапці... І яшчэ адна праблема: прафесійна падрыхтаваныя члены «Госціцы» («гатовыя» артысты), скончыўшы 10 класаў, павінны развітацца з мастацтвам, бо іх нельга залічыць на работу, ў штат тэатра,— зарплату дзецям у нас не даюць. Яны выступаюць, пакуль не выраслі і могуць хадзіць на рэпетыцыі пасля заняткаў ў школе.

«Госціца» трымаецца на голым энтузіязме дзяцей, іх бацькоў і кіраўнічак. Пры абыякавасці Белдзяржтэлерадыё. Пры абыякавасці нашага грамадства. Скажыце, дык ці патрэбны ўвогуле нам гэты тэатр сёння?!

Я выслухала развагі Ларысы Сімаковіч пра тое, што было б, калі б яна стала мільянерам: пэўна, што для «Госціцы» тады б надышоў «залаты век». На такой мінорнай ноце і закончу свой аповяд пра цудоўнае свята ў старажытнай Гародні, дзе самае яркае выступленне «Госціцы» адбылося, на маю думку, у музеі Максіма Багдановіча.

Ірына КРЭНЬ.

# «ПАХОДНЮ» ЗАПАЛІЛІ ВАЙСКОЎЦЫ

*Рэспубліканскі друк ужо змясціў паведамленне пра беларусізацыю газеты Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі «Во славу Родины». З першага лістапада вайскоўцы пачалі друкаваць беларускую старонку «Паходня». Рыхтуе яе падпалкоўнік Святаслаў Асіноўскі. Якім жа будзе полымя «Паходні»? Аб гэтым і гутарка нашага карэспандэнта з ваенным журналістам.*

— Хачу заўважыць, што, акрамя мяне, вядучым беларускай старонкі ў акруговай газеце з'яўляецца вядомы літаратуразнаўца, старанны і руплівы збіральнік беларускага фальклору Іван Уладзіміравіч Саламевіч.

**— Святаслаў Маркавіч, а як увогуле ўзнікла ідэя «Паходні»? Ці проста было зрабіць першы крок?**

— Многія беларусы забыліся, што павінны шанаваць роднае слова, родную культуру. І, канешне, такіх людзей шмат у вайсковым асяроддзі. Ды і тым, хто прыехаў з іншых рэспублік, не варта цурацца беларускай мовы і нашай гісторыі! Разважаючы пра гэта, і прыйшлі да рашэння, што нешта трэба рабіць. Першы крок... Які ён — меркаваць чытачу.

**— І ўсё ж такі, якім будзе полымя «Паходні»? Як ужо зараз выглядае беларуская старонка?**

— Адкрывае «Паходню» рубрыка «З нашае даўніны», якая мае невялікія падраздзелы — «Храналогія» і «Геральдыка». Думаю, што важкасць іх падачы зразумелая. Многія даты беларускай гісторыі ўвогуле невядомы шырокаму колу людзей.

А веды па геральдыцы беларускіх гарадоў?! Гэта ж таксама найвялікшая белая пляма ў нашай адукацыі. Ды і літаратуры ж па геральдыцы амаль што няма. Вядомая кніга Анатоля Цітова на гэтую тэму — сапраўдная бібліяграфічная рэдкасць.

Ёсць у «Паходні» і раздзел «Родные слова». У першым выпуску ў ім змешчаны верш Максіма Багдановіча «Пагоня».

Толькі ў сэрцы трывожным пачую<br>
За Краіну радзімую жах.—<br>
Успомню Вострую Браму Святую<br>
І ваякаў на грозных канях.

Пагадзіцеся, што і небеларуса павінны ўсхваляваць гэтыя радкі. Бо ў іх шчырая, сардэчная мелодыя.

Знойдучца ў кожным выпуску «Паходні» і месца для народных дасціпных жартаў, рэцэптаў знакамітых беларускіх прысмакаў. А значыць, «Паходню» заўважаць не толькі ў хвіліны сур'ёзнага чытання, але і пад час клопатаў на кухні ці адпачынку. І, пагадзіцеся, што слова, якое запала ў памяць неспадзеўкі, болей моцна засядзе, чым тое, што імкнуцца падаць ледзьве не пад прымусам.

Пачаўшы з элементарнага, мы спадзяёмся, што прыйдзе час, калі першыя чытачы «Паходні» ўсур'ёз захопяцца і беларускай мовай, і багацейшай гісторыяй Беларусі. Таму ў полымя «Паходні» будзе і традыцыйнае адценне: інфармацыйна-даведчае. А гэта бібліяграфія слоўнікаў і іншай літаратуры, а таксама пераклад некаторых беларускіх слоў, якія здаюцца найбольш складанымі.

— Вялікае вам дзякуй, Святаслаў Маркавіч, за падрабязнае знаёмства з «Паходняй». Поспехаў вам на беларускай ніве.

Распытваў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

